люты 2004 г.

# КРЫЛЫ

№4(2-2)

*Думай ясней!*
*Рухайся хутчэй!*
*Не спі - будзь разам з намі!*

Выданне моладзі Лунінецкага раёна.



**Сёння ў нумары:**





## Дзень закаханых

### Гісторыя і сучаснасць..

14 лютага - дзень асаблівы. Хаця афіцыйнага свята менавіта закаханых няма ні ў каталіцкай, ні ў праваслаўнай традыцыі, аднак існуе прыгожая легенда, пра якую згадваюць маладыя (і ня вельмі) зачараваныя каханнем асобы.
А зараз сама легенда...
Сцвяржаюць, што ў старажытныя часы, калі хрысціянства яшчэ толькі пачынала распаўсюджвацца ў Еўропе, жыў у Рымскай імперыі адзін святар з імем Валянцін.
Як звычайны святар, ён праводзіў вянчанне жадаючых пабрацца шлюбам хрысціян. Можа, яго дзейнасць і засталася б незаўважанай рымскім урадам, калі б сярод ягоных наведвальнікаў не з'яўлялася ўсё больш вайскоўцаў-легіянераў. Невядома, што болей непакоіла рымскага імператара Клаўдзія ІІ, ці то зварот вайскоўцаў да новай хрысціянскай рэлігіі, ці то з'яўленне ў іх жыццях пастаянных жанчын (легіянеры не павінны былі жаніцца і прывязваць сябе да чагосці). Валянціна схапілі і паабяцалі вызваліць толькі , пры ўмове, што ён не будзе даваць Боскага благаслаўлення закаханым і, найперш, вайскоўцам.
Святар адмовіўся і быў пакараны.
14 лютага яму адцялі галаву. Зразумела, што спакой дзяржавы даражэйшы за жыцці асобных людзей. Так адным пакутнікам за веру стала больш... А ў звычайных смяротных – яшчэ адно свята...
Наколькі праўдзівая гэтая гісторыя, меркаваць цяжка. На працягу барбарска-хрысціянскіх стагоддзяў сярэднявечча Валянціна, як ахоўніка закаханых, ніхто не ўзгадваў. Ягонае імя загучала толькі ў XVI ст., калі хтосці з ангельцаў прапанаваў увесці звычай, каб у дзень смерці святога Вялянціна дарыць сваім каханым шакаладныя цукеркі ў выглядзе сэрцайкаў. Якраз у гэты час у Еўропе з'явілася какава і свята магло зрабіцца добрай рэкламай новаму прадукту. Да таго ж рамантычная легенда надала асаблівую пачуццёвую афарбоўку дню 14 лютага і асобе самога Валянціна – цяпер для ўсіх ахоўніка закаханых.
Дарыце ў гэты дзень сваім каханым валянцінкі і ўсмешкі!

РЭДАКЦЫЯ "крылы"
(выкарыстаны матэрыялы "CD")



## Поздняя любовь

Парень девушку любил,
Та его не замечала.
Думал он о ней и снил:
Вместе шли по тротуару.
Он о ней всегда мечтал,
Но сказать ей всё боялся.
И когда её встречал,
Сразу будто бы терялся.
И однажды в тишине
Рассказать он все решился.
Громкий смех услышал он,
Тогда понял, что ошибся.
Бедный парень стал тогда
Он причиной для насмешки.
И ушел он в мир иной,
Перерезав вены в спешке.
Были в шоке все и та,
Та девченка, что смеялась,
Она поняла тогда,
Что одна она осталась.
Первый снег пошел тогда
На могиле свежерытой.
Только девушка одна
Тихо плакала с молитвой.
Думала, зачем она
Отвечала с той улыбкой.
Думала, зачем тогда
Насмеялась над мальчишкой.
Долго жить так не могла
Средь людей, что осуждали.
И за ним она ушла,
За мальчишкой, по спирали.
В тот же день и в тот же час,
Как и он, она уснула.
И с улыбкой на лице
В небесах к нему примкнула.
Снова падал первый снег
На могилы, что стояли,
Жёлтым цветом озаряли
Розы, что на них цвели.

SHURA



***

*Помнить тебя -*
*значит жить,*
*Помнить тебя -*
*значит любить.*
*Помнить тебя,*
*по-другому нельзя.*
*Помнить тебя,*
*так будет всегда!*



### *Лунінец*

На Палессі ёсць адзін,
Горад – Лунінцам завецца,
На ўзгорку ён стаіць,
Прыпяць каля яго ўецца,
Людзі добрыя жывуць,
заўсёды прывітаюць,
культуру берагуць,
К сабе ў госці запрашаюць,
Прыязжайце ў горад наш
На кірмаш ці на бяседу
Наш цягнік даставіць вас,
У любую кропку свету.
Ганарымся Лунінцом –
Лепшы горад на планеце,
Наша будучыня ён,
Беражыце яго, дзеці.

SHURA

***

Когда ложусь я ночью спать,
Когда глаза я закрываю,
Ко мне приходишь ты опять,
И обо всём я забываю.
Ты говоришь со мной всю ночь.
Я рада слышать голос твой.
И не могу я превозмочь
Себя, тогда порой
Старалась я тебя прогнать,
Не слышать больше твоих слов.
Но чувствую, себя унять
Не суждено мне. Мой приговор таков.
Пока не скажешь мне "Люблю!",
Я, видно, никогда и не усну.

*Невядомая дзяўчынка.*

***

Понятье совести и чести.
Кому оно знакомо?
Все говорят о зле и мести.
А как же по-другому!
Сто лет назад вверх по реке
Времен и знаний плыли.
Ну а сейчас как будто все
Об этом всём забыли.
А как же дальше будем жить
Средь сей развратности?
Последний разум свой убить
Хотите по халатности?

### ***Мольба.***

Когда тебя я вижу,
То забываю обо всем.
Когда тебя я слышу,
Всё поднимается огнем.
Сдержать себя не в силах,
Мне больше нечего терять.
О, повелитель мой, помилуй,
Позволь хоть рядом постоять!
Ну, обрати свой взор ты
на меня,
Взгляни хоть раз в мои глаза!
Мой менуэт тогда запомнишь
навсегда.
А на щеке моей появится
слеза.

Н.В.

***

Как много зла , обмана, фальши
В нашем беспокойном мире!
В тупик заходим мы всё дальше
И в тьме той жить отныне
Веками будем мы. Пока все не поймут ,
Что надо что-то изменять.
Тогда быть может выйдут
Из тьмы грешной. Но понять
За что и почему все мы там оказались
Дано не каждому. Поэтому нам надо
Простую истину запомнить:
Пока мы все не схлопотали
Себя усовершенствуй, а потом живи...

*Невядомая дзяўчынка.*



# Святкаваць святы.

Па вядомых прычынах абставіны склаліся так, што у 1990 годзе СССР распаўся. У сувязі з гэтым адбылося шэраг змен у жыцці народа. Так, напрыклад, трэба было стварыць свае беларускія святы і адзначаць адметныя дні ў жыцці ўжо іншай краіны. Дзень заснавання БССР, затым - БНР, РБ, дзень прыняцця Канстытуцыі РБ і г.д.

Але ў свядомасці старэйшага пакалення некаторыя дні так і засталіся святочнымі. Так, напрыклад, стварэнне Савецкай Арміі звязана з канкрэтнай датай – 23 лютага. У нашай краіне - гэта Дзень абаронцаў Айчыны. Вось і ўзнікае пытанне: што тут агульнага? Чаму людзей, якія абараняюць Радзіму помняць толькі ў канкрэтны дзень? Яшчэ адна асаблівасць: у гэты ж дзень віншуюць хлопчыкаў, якія яшчэ не вызначыліся ў жыцці. Хто можа сказаць, што яны сапраўды будуць абараняць Радзіму, асабліва зараз, калі ў армію хочуць ісці адзінкі? Хто можа сказаць, што канкрэтная дзяўчынка не будзе абараняць краіну, працуючы, напрыклад, у міліцыі? Ці мала вядомых выпадкаў, калі жанчыны ў часы Вялікай Айчыннай вайны змагаліся на адным узроўні з мужчынамі...

Яшчэ больш абсурдным з'яўляецца свята 8 сакавіка – Міжнародны дзень жанчын. У слова "міжнародны", наколькі мне вядома, уключаны краіны былога СССР. Канстытуцыя прадугледжвае роўныя правы жанчын і мужчын. Тады чаму жанчына павінна адчуваць сябе жанчынай толькі ў пэўны дзень? Чаму мужчыны павінны казаць жанчынам кампліменты, дарыць кветкі толькі адзін раз у год? Ці цяжка мужчынам даваць магчымасць адчуваць сябе "самай-самай", а галоўнае – жанчынай кожны дзень? Яшчэ далей пайшла ААН, назваўшы 8 сакавіка Днём абароны жывёл.

Канешне, гэта проста супадзенне, але мне асабіста непрыемна. Менавіта таму я не прызнаю дзень жанчын, бо і ў іншыя дні яна застаецца той жа, што і ў гэты дзень (яна ж не становіцца мужчынай).

Грамадства вырашае, якія святы адзначаць, а якія не. Наконт гэтых двух святаў я для сябе вызначылася, а ты – падумай...

*Ксю.*



# Цяперашнія Вучні,
## ці думкі пра тое, што будзе заўтра.

У Лунінецкім ДПТК было адлічана 2 вучні. Хлопец і дзяўчынка. Яны займаліся таксікаманіяй у інтэрнаце, дзе іх і злавілі. Яны нюхалі клей. А пасля яшчэ захацелі скончыць жыццё самагубствам. Аднаго з хлапчукоў хацелі адправіць ў г. Магілёў, у спец. вучылішча. Але вырашылі не даводзіць справу так далёка. Другога адлічылі з *пачэсных* радоў БРСМ (!) і адправілі дамоў. У яго гэта была ўжо не першая заўвага. Раней на яго было састаўлена некалькі пратаколаў, таму што ён знаходзіўся ў нецвярозым стане.



Таксама ў інтэрнаце было злоўлена яшчэ многа вучняў у некцвярозым стане і ў час ужывання алкаголю. У тым годзе адна вучаніца прынесла ў ДПТК палавое захворванне, якім потым захварэла многа людзей. Яе адразу ж выключылі з вучылішча.

Таксама вучнямі ДПТК было дапушчана шмат правапарушэнняў. 13 студзеня вучань ДПТК узяў машыну без права кіравання, што і стала прычынай здарэння якое ён зрабіў. Ён збіў мужа сваёй стрыечнай сястры. Хутка адбудзецца суд, на якім стане вядомым лёс хлапчука.

Я спадзяюся, што адміністрацыя ДПТК зробіць усё, што зможа каб паставіць усё на свае месцы. А такіх вучняў трэба не задумваючыся выключаць з вучылішча. Яны проста не задумваюцца як яны будуць жыць далей. Як будуць зарабляць грошы, як будуць існаваць. Калі ў іх будуць сем'і, то як яны будуць іх карміць. Але напэўна ў такіх людзей не будзе сям'і . Такія людзі самі жывуць не доўга. Так што спачатку падумай, а потым зрабі тое, што задумаў. Ці не зрабі...

Так што пакуль не позна, то бярыцеся за розум. Вучыцеся на памылках другіх, а не на сваіх.

Хрон і К⁰

# ГУМАР

***

Аднойчы дырэктар вакзала бачыць: падыходзіць Чукча да вагона цягніка і б'ецца аб яго галавой, подыходзіць да наступнага - і галавой, подыходзіць да трэцяга - і галавой, і г. д. Дырэктар пытае:

- Чукча, вы звіхнуліся?
- Аднак, не, Чукча мяккі вагон шукае.

***

Чукча знайшоў люстэрка. Пытаецца:

- Чыё?

Затым, глядзіць ў люстэрка:

- О! Маё!.

***

Заходзіць студэнт ў прыбіральню, бачыць, як яго аднакурснік нешта робіць рукамі ва унітазе:

- Што ты робіш?
- да вось плашч засмактала!
- Ты што яго насіць будзеш!
- Да не! Там у кармане бутэрброд ляжаў.

***

Едут в машине таксист, бизнесмен и программист. Вдруг машина ломается. Таксист говорит:

- Давайте мотор смотреть. Бизнесмен:
- Да ладно, давай тачку поймаем. Программист:
- А давайте все выйдем и снова войдем, может, она заработает?




Думай, башка, лакам пакрыю!!!



| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 | | 1 | | | | | | |
| | 3 | 5 | 1 | 7 | 1 | 3 | 1 | 3 | 1 | 7 | 1 | 5 | 3 | |
| 1 | 1 | 5 | 1 | 1 | 8 | 8 | 12 | 8 | 8 | 1 | 1 | 5 | 1 | 1 |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 1 |
| | | | 2 | 2 |
| | | | | 15 |
| | 2 | 1 | 1 | 2 |
| 1 | 1 | 3 | 1 | 1 |
| | | 1 | 3 | 1 |
| | | 1 | 3 | 1 |
| | | 1 | 1 | 1 |
| | | | | 7 |
| | | | | 5 |
| | | | | 5 |
| | | | | 5 |
| | | | | 5 |
| | | | | 5 |
| | | | | 5 |
| | | | | 11 |
| | | | 1 | 1 |
| | | | 1 | 1 |
| | | | 1 | 1 |
| | | | 2 | 2 |

***

Прафесар на экзамене пытаецца студэнта.

- Вам задаць адно цяжкае пытанне або два лёгкіх?
- Одно цяжкае, - адказвае студэнт.
- Тады так: дзе ўпершыню на зямлі з'явіліся абязьяны?
- На Арбаце.
- Чаму?
- А гэта ўжо другое пытанне

***

Хочаш купіць гэтага маленькага шэранькага хамячка з вялікімі сумнымі вачыма або гэтага махнатагка лянівага белага кроліка? Дзяўчынка з усмешкай адказвае:

- А майму удаву па-барабану!

***

Маленькі хлопчык прыйшоў у абутковую краму і папрасіў шнуркі для ботаў.

- Табе якія? - спытаў прадавец.
- Адзін левы і адзін правы.

***

Цыган гаворыць сыну:

- Схадзі за цыгарэтамі.
- Давай грошы.
- За грошы і дурань зможа.

Выданне бюлетэня з'яўляецца адным з накірункаў дзейнасці КПІ «Кажан» пры Дрэбскім СДК.
Выдаецца на правах рукапісу. Надрукавана на ксераксе. Наклад 299 ас.
Пры перадрукоўцы матэрыялаў спасылка на «КРЫЛЫ» абавязкова.

**Ініцыятыўная група:**
*Грыневіч Дзіма*
*Пройдзін Александр*
*Караваевіч Віця*
*Апановіч Віталь*
*Арашкевіч Вадзім і іншыя.*



**Рэдактар:** В.М. Каратыш

**Адрас:** *225661* Дрэбскі СДК, в. Дрэбск, Лунінецкі р-н.
**тэл.** *(8-01647)* ***71277*** (звяртайцеся да дырэктара СДК)